## КАРАНІ

# НА ЗЯМЛІ СТАРАЖЫТНАЙ, СЛАВЯНСКАЙ



Апоўднем хмарная аблока падпаўзла пад сонца і ў імгненне вока праглынула яго. Адно засталіся светлыя блікі на незанятым краі небасхілу. Але й туды імкліва паўзла вялізная паклычаная кучавая навала, ахіляючы зямлю шэрай панылаю.

Неяк адразу зрабілася ціха, маркотна, нават птушкі замоўклі. А тады раптам дыхнуў на замкавую гару густы ад вільгаці і даўкага грыбнога настою вецер, шырока пайшоў па палях і лугавінах. А па ўтравелай круцізне гарадскога валу пакаціліся сівыя хвалі выспелага палыну, быццам хлынула вада з ахоўнага рову паўз гарадской сцяны. І хоць па ўсіх прыкметах блізіўся дождж, людзей у гандлёвым радзе пад крэпаснай сцяной не паменела. Ніхто не кінуўся збіраць катомкі, запрагаць коней. А кожны "гандляр" чамусьці з яшчэ большым імпэтам пачаў хваліць, стараючыся перакрычаць вецер, уласны тавар і настойліва прапаноўваць яго цікаўнаму люду. Адны запрашалі да садавінкі, іншыя адразалі кавалачкі ад важкіх вэнджаных кумпякоў ды піханых пальцам каўбасаў, і таксама прасілі не абыйсці ўвагай. Вясёлая кабета, завязаўшы хусцінку ражкамі ўверх, гукала:

— Адведайце бульбачкі варанай! З укропам напаранай! З агурочкам кісленькім, ядраным!

Ля яе на ўслончыку і сапраўды дыміўся саганок з разварыстымі бульбінамі, а ля чорнага саганка таго бледна зелянелі ў місе пупырыстыя агурочкі.

Вакол вабілі вока крутабокія, сонцам паналіваныя гарбузы, грушы, яблыкі, і нават чорная ёмкая рэдзька выглядала шыкоўнаю паняю. І дзецям прысмакі бяры, якія хочаш — салодкія пернікі з выявамі розных зайцоў, лісаў, мядзведзяў. І нават у выглядзе крыжа Ефрасінні Полацкай.

Ды раптам над людскімі галовамі луджанай меддзю загула труба. Грозна заіржалі ўверсе коні. Кірмашоўцы паўскідалі вочы ўгору. Уздоўж крэпаснога валу над імі вырасла княжэцкая дружына. Здавалася, яна вісіць над абрывам у хмарным небе, і вось-вось там пранясецца грымотная калясніца, коцячы раскатныя перуны і выкрасаючы агністыя маланкі.

Ударылі струны ў руках барадатага гусляра, і па чашы старажытнага цвінтара паплыла, расяна пасыпалася спеўная славянская мелодыя.

... Было ўсё гэта не ў далёкіх вяках, а сёлетняй восенню ў ціхім кутку зямлі беларускай.

Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў, народны пісьменнік, запрасіў на свята старажытнага горада Друцка.

Хіба ёсць такі горад? — спытаеце вы. Быў і будзе! Я ў гэта паверыў, пабыўшы на святе. Яно было першым у праграме "Адраджэнне духоўнай культуры старажытных (малых) гарадоў і паселішчаў Беларусі". Праграму распрацоўвае і ўвасабляе Беларускі фонд культуры пад кіраўніцтвам Івана Чыгрынава.

— Для чаго ўсё гэта? — пытаю ў Івана Гаўрылавіча па дарозе на Талачыншчыну, дзе гэты самы Друцк знаходзіцца.

— Мы хочам вярнуць малым гарадам і старажытным мястэчкам адметнасць, своеасаблівасць, непаўторны каларыт, надаць ім больш высокі статус. Мы добра ўсведамляем, — кажа старшыня Фонду культуры, — што без эканамічна развітай правінцыі з высокім узроўнем матэрыяльнай і духоўнай культуры немагчыма існаванне паўнацэннай суверэннай дзяржавы. Наша праграма будзе садзейнічаць гэтаму.

Стаю на ўтравелым замчышчы, з вышыні птушынага палёту аглядаю наваколле. І разворaныя палі, і лес за раўнюткай сенажаццю, і вузкая палоска некалі паўнаводнай Друці, а цяпер Друцянкі — усё гэта прасторы старажытнага Друцкага княства. Тут пралегла адно з адгалінаванняў воднага Дзвінскага шляху з варагаў у грэкі.

На месцы цяперашняга гарадзішча, дзе добра захаваліся ўмацавальныя валы і равы, быў горад Друцк са шматлікімі прыгожымі саборамі. Адзін з іх самы старажытны на Кіеўскай Русі. Горад узнік у пачатку XI стагоддзя і прыгадваецца ў летапісах недзе каля 1092 года. Ля яго сценаў пабывалі полацкія і мінскія князі, Уладзімір Манамах і нават герой "Слова аб палку Ігаравым" Ігар Святаславіч. Гандляваў Друцк з Візантыяй, Прыбалтыкай, Кіевам, Смаленскам, Оўручам.

Горад знік з твару зямлі. А прычына яго гібелі так і невядомая да сённяшняга дня.

Тым часам на гары разгарнуўся шырокапанарамны спектакль пад адкрытым небам. Узбіваючы пыл, гулка праненслася дзядзінцам баявая княжацкая дружына. Прабег строй пешых ваяроў-лучнікаў. Шырока паплыла старажытная мелодыя, а ўслед за ёй заракатаў волатны голас князя Барыса: "Пасля смерці полацкага князя Усяслава Брачыслававіча, бацькі майго, я пачаў уладарыць у Друцку. Хадзіў з раццю на яцвягаў, а вяртаючыся з перамогай, заснаваў град Барысаў, каб умацаваць заходнія рубяжы свайго ўдзелу..."

Як светлыя здані далёкага мінулага, праплылі вятрыстым дзядзінцам светлыя постаці княгіні Аляксандры і Соф'і Гальшанскіх. Потым спявалі фальклорныя калектывы з Мінскага ўніверсітэта культуры, мясцовыя, самадзейныя. А ўсім гэтым дзействам кіраваў Мікола Макарцоў — вопытнейшы рэжысёр народных святаў. Сам Мікола з Гомеля, а вядомасць набыў на ўсю Беларусь як таленавіты, энергічны арганізатар, цудадзей-творца вясёлых і маляўнічых "Калядаў", "Купалляў", "Гуканняў вясны".

І пісьменнікаў з Мінска не абыйшоў Мікола Макарцоў рэжысёрскай увагай. Над гарой і лугавінай луналі вершы і прамовы Івана Чыгрынава, Алеся Пісьмянкова, Нічыпара Пашкевіча, Сцяпана Лаўшука, Уладзіміра Скарынкіна... Ці то акрыленыя высокай лірыкай, ці перапалоханыя нячутымі тут грымучымі дынамікамі, паўзляталa ў неба ўсё крылатае друцкае птаства. І кружылася там высока, ціўкаючы і каркаючы нешта сваё, птушынае, і таксама да свята далучанае.

Да падножжа дзядзінца прытулілася вёска. Вядома ж, Друцкам называецца. Насельнікі яе найбольш і сабраліся на свята старажытнага горада. Яны і там, ля падножжа гарадской сцяны. Шчодра частавалі прыезджых гасцей вясковымі прысмакамі. І тут, на гары, атабарыўшыся гаманкімі астраўкамі, дэманструюць умельства сялянскіх рук. Хто паразвесіў саматканыя дываны-посцілкі, дарожкі, ручнікі. Хто навідавоку майструе кадушку, вяжа кошык. А хто падпявае артыстам, пакаштаваўшы весялільных кропель ля выязнога гандлёвага латочка. І нават князь Барыс, у шлеме, у латах, з вялізным мячом на поясе, злез з каня белага, ды налівае з ёмкага гладыша народнаму пісьменніку духмянага напою, а заадно і ўсім, хто побач, перападае.

Словам, свята ёсць свята!

І не дождж, што хутка сыпануў, азмрочыў мой настрой. Ці ж крыўдаваць на прыроду!..

Узяўшы пад свой парасончык, настаўніца мясцовай школы падзялілася сумным клопатам. Выявілася, што тут, у Друцку, колькі часу назад згарэла школа. Калгас пачаў будаваць новую. Але толькі заліў падмурак, а на ўсё астатняе пры шалёным цэнавым галопе сродкаў не хапіла.

Ну, што ж, у наш расхрыстаны, бязладны час так і ёсць: вяртаемся да спадчыны, узводзім яе ў ранг святасці і, трэба сказаць, заслужана. А пра не менш святое — пра будучыню нашу — часта забываем. Адно ўзводзім "паветраныя палацы". А яны, вядома, як будуюцца лёгка, так і аднолькава лёгка разбураюцца.

— Вучацца цяперашнія дзеткі на старажытнай Друцкай зямлі па кладовачках ды сенцах, пры поўнай антысанітарыі. — Дзеліцца бядой Галіна Валянцінаўна Смольская. Яна — настаўніца беларускай мовы і літаратуры. Але не тутэйшая. Прыехала ў Друцк з чарнобыльскай зоны. Яе родная вёска Бахчын цалкам выселена. Прыехала Галіна Валянцінаўна з мужам, спецыялістам сельскай гаспадаркі, на Талачыншчыну новага шчасця шукаць, а тут новая бяда падсцерагла.

— Куды ні пісалі, дзе ні прасілі дапамогі, каб новую школу пабудаваць!.. Усюды як быццам абяцаюць, а канкрэтнага ўдзелу нябачна! — Падзяляе заклапочанасць настаўніцы старшыня калгаса з добрай назвай "Праўда" Пётр Іванавіч Догіль. Старшыня, як і настаўніца, яшчэ даволі малады чалавек і на шмат якія сумныя з'явы глядзіць з добрай надзеяй. — У калгасе, увогуле, вялікае гаспадарчае будаўніцтва ідзе. Паспелі выхапіць будматэрыялы па старых цэнах. Пакрыху муруем, сцены кладзём. Дабярэмся і да школы, толькі б крыху дапамаглі тыя, хто абяцае шчодра... А так, бачыце, у самы разгар уборкі нават свята арганізавалі. Трэба, каб людзі ведалі, на якой зямлі жывуць. Тады і шанаваць яе будуць, а не маліцца заморскаму ідалу!

Вось чаму я і паверыў, што старажытны горад Друцк будзе жыць і далей. Хоць у сэрцы, хоць у памяці.

То няхай спагадае лёс гэтай зямлі!

**Генадзь ПАШКОЎ**

**Фота В. СТАРАВЕРА**

*Талачынскі раён*

## ТРЫБУНА ПІСЬМЕННІКА

### *ЯЎГЕН КАРШУКОЎ*

**ПАЖАДАННЕ**

Цяжка, нязвыкла
глядзець на сяброў:
Вочы запалі,
насуплены бровы...
На развітанне кажу:
"Будзь здароў!"
Але сам бачу —
сябрук нездаровы.
Неяк задоўга трымае руку,
Поціск трывожны
і ціхі да болю.
Вось і жадаю свайму сябруку
Толькі здароўя, здароўя,
не болей.

**ДЭПУТАТАМ**

Неяк няўцямна, незразумела:
Праўду чамусьці
кажам нясмела...
Колькі ў краіне бедных
і голых!
Гэтак, не дай Бог,
насунецца голад.
Ад абяцанак, пустой гаворкі
Цяжка на сэрцы, цяжка
і горка.
Хмуры рабочы,
Сумны араты...
Гэй, дэпутаты!
Дзе дэпутаты?!
Дзе той Савет,
Што завецца Вярхоўным?
Быў жа ён калісь
самым галоўным...
Ці мы пачуем важкае слова?
Пэўна: не тая перабудова.
Гаснуць надзеі на перамены.
Душаць бязлітасна
жорсткія цэны.
Хутка донасім
апошнія транты.
Церпіць нястачу
народ талерантны,
Які нядаўна амаль
быў багаты...
Што ж вы маўчыце,
мае дэпутаты?!.

**ГОСЦЬ**

Даўно астыла шклянка чаю,
Даўно пайшоў мой
званы госць...
Нікога я не дакараю,
Хоць з сумам думаю
пра злосць.
Злосць пасялілася ў душах
І брыдкім словам рэжа слых.
Яна ламае нават дужых —
Я не кажу ўжо пра слабых.
Са злосцю бразнуў
ён дзвярыма,
Зняважыў блізкіх і мяне,
І выгляд быў такі звярыны,
Што аж мурашкі па спіне...
Жыццё? Ну, так, жыццё
не тое.
І ўсё ж я кожнага прашу:
Пакіньце
У душы святое,
Не ганьбіце сваю душу!

### *Г.МАРЧУК*

## ТАКОЕ ПАЧАЛОСЯ ЖЫЦЦЁ, *або* ЯК ПУЗАКОЎ СПАКУШАЎ ДОКТАРКУ

Прыйшоў час, калі адны з жаданнем кралі, другія без жадання бедавалі. Мярылам усяму зрабілася карысць. Туалет стаў аб'ектам вялікай увагі, а голая, даруйце, задніца "новымі людзьмі" аб'яўлялася як найвышэйшы прадмет эстэтыкі. Інжынер праектнага аддзела, які выдаваў нагара праекты кацельняў, Анатоль Пузакоў у свае сорак красці не навучыўся, але і працаваць на ўсю сілу за невялікія грошы не хацеў. Усё часцей лайдачыў, пад маркаю "еду на аб'ект" ішоў у сквер, грэўся на сонцы, ламаючы галаву, дзе б знайсці дадатковы прыбытак.

Здаралася, расцягваў абед, ехаў дахаты, пакуль дзеці былі ў школе, а жонка ў інстытуце (яна, былая чэмпіёнка, выкладала лыжны спорт) і клаўся на гадзіну-паўтары спаць. Ён любіў утульнасць, спакой, улюблёна дагладаў свае на манер Дон-Жуана вусікі і бародку. Хатнюю работу рабіў моўчкі, але з неахвотаю. Больш падабалася, выконваючы просьбы энергічнай жонкі, хадзіць у якінебудзь дом быту, ці ў ашчадную касу, альбо весці двух сыноў у батанічны сад ці на выстаўку сабак. Аднаго разу папрасіла жонка павесці дзяцей на прыём да стаматолага.

— Ды купіш кветак доктарцы. Яны любяць падарункі, — папярэдзіла жонка. Не стаў заходзіць у фірменны новы і дарагі магазін "Кветкі", купіў рамонак у цёткі на прыступках гастранома.

— Заходзьце, заходзьце, Пузаковы. Даўнавата вас не было, — падкрэслена, ветліва сустрэла іх дантыстка. — Вы ўсе да мяне?

— Не. Толькі яны, — адказаў Анатоль і падаў кветкі.

— О, дзякую. Гэта, мабыць, апошнія рамонкі?..

Анатоль, чакаючы дзяцей, хадзіў па калідоры ў прыўзнятым настроі. "Яна неблагая, зусім неблагая і, мабыць, лёгкадаступная". Калі дзеці выйшлі з кабінета, ён, прасунуў галаву, каб яшчэ раз засведчыць сваю павагу.

— Заходзьце, — прыемным голасам запрасіла доктарка. Яна сядзела на высокім крэсле, спусціўшы ногі долу. Яны былі трохі агаленыя, і Анатоль міжволі перавёў на іх позірк.

Увесь вечар ён быў у добрым настроі. Ліха ведае, што мроілася.

"Мабыць, я ёй прыглянуўся, — думаў ён, зачыніўшыся ў ваннай і аглядаючы свой твар. — Відаць, яна недзе адных гадоў з маёю жонкаю, але ж ці параўноўваць іх? Мая да сарака і вагу набрала, і маладосць страціла... Ці не наведаць стаматолага без дзяцей?" Гэткая ідэя асяніла яго.

На рабоце сябра пахваліўся, што купіў палюбоўніцы танную французскую туалетную ваду. Падказаў, дзе. У час абеда апантаны Пузакоў паехаў на ўскраіну сталіцы.

Доктарка была прыемна здзіўлена. Усмешка не пакідала кругленькі тварык з кірпатым носікам.

— Дзякую вам за падарунак. Будуць праблемы, заходзьце, тэлефануйце, — доктарка нечакана падала яму руку. Ён няўцямна пацісуў яе ўспацелай далонню.

— Яна яшчэ любіць бананы і вінаград... — гукнула з-за стала мажная медсястра.

Праз два тыдні ў дзень палучкі Анатоль папрасіў у латочніцы ўзважыць дыню. Каштавала дорага. То не рызыкнуў узяць.

— Вось што. Зрабіце так. Кіло персікаў у адзін кулёк і паўтара — у другі. — Вырашыў кілаграм аддаць стаматолагу, а паўтара — завезці дахаты.

Стаматолаг грацыёзна сядзела на крэсле з вялікім зялёным бантам у валасах. Твар яе па-дзявочы свяціўся гарэзлівасцю.

"Няўжо яна змяніла прычоску дзеля мяне?" — з замілаваннем падумаў Анатоль.

— Я тут па службе, быў недалёка. Дай, думаю, парадую абаяльную жанчыну ўсходнімі пладамі, — пачаў ён гаворку.

— О, сапраўды салодкія плады!.. Не трэба было так траціцца.

У стаматалагічным крэсле сядзела дзіця, і ён, разумеючы, што доктарка не зможа выйсці, пакінуў кабінет.

"Усё! Яшчэ пару візітаў, і ў атаку!" — прыдаваў ён сабе ўпэўненасці ўжо на вуліцы. Ля свайго пад'езда палез у партфель, дастаў пакет з персікамі і войкнуў: "Я ж ёй паўтара кілаграмы аддаў! Хапіла б для першага разу і кілаграма".

Праз тыдзень жонка сама падштурхнула яго да сустрэчы з доктаркай.

— Схадзі ты да стаматолага. Бач, у цябе зуб адшчапіўся, непрыемны пах з роту. Купі ёй бутэльку лікёру.

"Навошта ёй лікёр. Куплю вінаграду і пачак "Камела". Калі не курыць, мне застанецца", — прыняў рашэнне Анатоль. Ён з маленства баяўся лячыць зубы. Хваляваўся. Яму так хацелася неўпрыкметна як бы пацалаваць яе худыя пальцы перад тым, як яна бурам дакранецца да яго зуба.

Не паспеў, а пасля было не да пацалункаў, не да кампліментаў.

Прыкрываючы рот насоўкаю, Анатоль у знак падзякі паклаў на стол кілаграм вінаграду і, забыўшыся пра "Камел", пайшоў.

"Дамоўлюся на рабоце з Валерам Санько... За бутэльку гарэлкі на гадзіну-дзве дасць ключ ад сваёй кватэры. Запрашу яе пасля работы на каву, плюс бутэлька шампанскага, бананы, лімон..." — пачаў будаваць планы на будучае Анатоль, застаўшыся адзін.

Калега згадзіўся даць ключ на дзве гадзіны за бутэльку "Напалеона".

З ключом ад чужой кватэры Пузакоў на крылах ляцеў да паліклінікі.

"Хопіць. Я табе не маэстра Эсамбаеў, каб у пер'ях танцаваць вакол. Іншы час! Іншыя норавы! Каша запраўлена, трэба есці, — падбадзёрваў сябе любоўнік.

— Вы на прыём? — не чакала ўбачыць яго Святлана.

— Не. Проста быў па службе. Ёсць цудоўная прапанова.

Яна не дала яму дагаварыць.

— Занятая вельмі цяпер. Нарада ў загадчыцы будзе.

Ён зразумеў, што сёння нічога не выгарыць. Ключ далі ўсяго на дзве гадзіны. "Трэба будзе шукаць яўку бліжэй, — падумаў ён. — А можа ў яе ёсць падпольны куточак?"

Праз некалькі дзён яны выпадкова сустрэліся ў прадуктовым магазіне.

Вочы ў яго гарэлі.

— Добра, што я вас напаткала, — ажывілася Святлана. — Займіце, калі ласка, чаргу да касы, а я тым часам узважу мяса.

Ён пакорліва стаў у чаргу, не зводзячы з яе закаханых вачэй. Яна, стоячы ў сваёй чарзе, прыветліва яму ўсміхнулася.

Яны ішлі знаёмым шляхам да прыпынка.

— Мы ўсё з вамі на бягу, ды на бягу. Давайце сустрэнемся ў любы зручны для вас дзень. Пасядзім, дзе нам ніхто не будзе перашкаджаць. Вып'ем для "простоты мироощущения". Што хаваць, вы мне падабаецеся.

— Ой, не ведаю, што й адказаць... Я жанчына старых правілаў.

— Я ўсё ж буду спадзявацца, — праявіў настойлівасць Анатоль. — Ёсць адна кватэрка на прыкмеце. За медыцынскім інстытутам.

— Нічога не буду абяцаць. Час пакажа. Даруйце. Вы добры чалавек, і дзеці вашы мне падабаюцца... Але ж жыццё... Часам мы яго ахвяры. Мой тралейбус. Дзякуй вам.

"Не, яна з комплексам", — сумна падумаў Пузакоў, застаўшыся сам на сам.

У зімовыя канікулы дзяцей Пузакова павяла да Святланы Канстанцінаўны жонка. Мінулі месяц, другі... а сам ухажор больш не паказваўся.

— Нешта скончылася ваша "любоў", не пачынаючыся, — нагадала аднаго разу доктару медсястра.

— Мабыць, знайшоў іншы аб'ект, — трохі з сумам сказала Святлана Канстанцінаўна. Недзе ў глыбіні душы яна трошкі пашкадавала, што ўсё так рэзка абарвалася.

Праз нейкі час Святлане Канстанцінаўне прывёў сваё дзіця бізнесмен. Ён не дарыў ёй дыню, вінаград, бананы... Купіў на вясновыя канікулы доктарцы і яе малодшай дачцэ пуцёўкі ў прафілакторый на возеры Нарач. І яна, не гледзячы на дарагі падарунак, які бяруць звычайна ад палюбоўнікаў, чырванеючы і жадаючы падабацца, узяла, добра ведаючы, чым будзе яму абавязана за гэты жэст гуманітарнай дапамогі. Шмат хто цяпер гэтак робіць, не асуджаючы ўтрымманства. Такое пачалося жыццё!..

## ПРАЎДА ГІСТОРЫІ

# ПОЧЕМУ ОСЕРЧАЛ ХРУЩЕВ

Семнадцать лет назад, 2 августа 1977 года, телеграфные агентства мира передали краткое сообщение. В нем говорилось, что во время катастрофы патрульного полицейского вертолета близ Лос-Анджелеса погиб Фрэнсис Гарри Пауэрс. Подробностей не приводилось, да и вряд ли они могли дополнить историю человека, который был буквально обречен стать "забытым" у себя в стране еще задолго до этого рокового часа. И на то были свои причины.

1 мая 1960 года в 5 часов 36 минут, как докладывала советская погранзастава на реке Пяндж юго-восточнее Душанбе, неизвестный летательный аппарат на высоте около 20 тысяч метров пересек государственную границу СССР и направился в глубь советской территории. Позднее стало известно, что маршрут самолета пролегал над крупными советскими промышленными центрами и военными объектами, а его общая протяженность составляла 6.100 километров, из них 4.700 над территорией СССР. За штурвалом самолета У-2 — нарушителя советской границы — находился один из самых квалифицированных пилотов Центрального разведывательного управления США Фрэнсис Гарри Пауэрс.

Полет начался в Пакистане и должен был окончиться на авиабазе в Буде (Норвегия). Но завершился он намного ранее планируемого времени и не на норвежской земле, а на русской. В районе Свердловска (ныне Екатеринбург) самолет У-2 был сбит, а его пилот, выбросившийся из разваливающейся на части машины, был задержан, не успев уколоть себя отравленной смертельным ядом иглой, выданной ему при взлете.

Это последнее непреднамеренное действие, а, вернее, без-действие, по-видимому, и сыграло решающую роль в возникновении целого ряда крупных и мелких осложнений в советско-американских отношениях, что вознесло гражданина США Фрэнсиса Гарри Пауэрса сначала в ранг "великомученика XX века" (это когда над ним проходил судебный процесс в Москве), а затем превратило личность, "забывшую о своем служебном долге" (это уже после возвращения на родину).

Сегодня, многие годы спустя, когда людям, родившимся в тот памятный май, сейчас за тридцать, происходит неожиданная переоценка событий тех дней, высвечиваются факты и обстоятельства, не имевшие тогда ровным счетом никакого значения, но используемые сейчас в политических интригах в качестве приоритетных. Из недр архивов и тайников спецхранов извлекаются материалы и документы, причем только те, которые можно использовать в качестве дубины, чтобы крушить головы своим политическим оппонентам. При этом полностью игнорируются факты и оценки по существу дела. А зря.

Вот выдержки из сообщений, поступивших в Москву в те майские дни 1960-го из советских посольств и представительств за границей.

**Вашингтон. 17 мая 1960 года:** Источники, близкие к министерству обороны США, утверждают, что одной из целей полета разведывательного самолета У-2 над территорией СССР было, по планам Пентагона, продемонстрировать превосходство и эффективность американской стратегической авиации. Для данной операции был сознательно выбран день советского праздника 1 Мая с тем, чтобы противопоставить американскую авиацию советским ракетам, которые должны были демонстрироваться в этот день на Красной площади. В Белом доме определенно рассчитывали, что полет пилота Пауэрса должен был поднять авторитет США среди союзников. В государственном департаменте США были заранее заготовлены тексты для доверительной информации глав союзных государств и правительств об успешном полете У-2.

**Стокгольм. 20 мая 1960 года**: То обстоятельство, что Норвегия оказалась причастной к полету американского самолета-разведчика У-2 над территорией СССР, рассматривается в Швеции как достойный сожаления факт. По мнению авторитетных правительственных чиновников в Стокгольме (называются имена), разведывательная деятельность американцев может серьезно повредить внешнеполитическому положению Норвегии и нанести ущерб нейтралитету Швеции и Финляндии.

**Бонн. 23 мая 1960 года:** Как заявил в узком кругу своих коллег канцлер Аденауэр, вернувшийся 15 мая из Парижа, американские представители заверили его, что они скорее пойдут на разрыв переговоров на высшем уровне между СССР и США, чем согласятся на какие-либо уступки, которые могли бы быть расценены на Западе как "проявление слабости".

**Нью-Йорк. 24 мая 1960:** По мнению ряда высокопоставленных дипломатов при ООН (называются имена), ЦРУ умышленно послало свой разведывательный самолет в воздушное пространство СССР с целью торпедировать предстоящее совещание на высшем уровне. Американская разведка с большой долей вероятности рассчитывала, что пилот Пауэрс погибнет в ходе этой операции и можно будет обвинить СССР в злодейском уничтожении заблудившегося невооруженного самолета. Предполагалось также, что "непредсказуемый" Хрущев "взорвется", не приедет на совещание в верхах и США обвинят СССР в срыве совещания.

...Хрущев действительно взорвался и весьма своеобразно. Правда, по несколько иному поводу. Автор этих строк находился буквально в метрах от Хрущева, когда тогдашний советский лидер попросил в павильоне Парка культуры и отдыха имени Горького в Москве табуретку или стул, чтобы возвыситься над остатками сбитого У-2 и заклеймить США. Текст импровизации Хрущева был в свое время опубликован и стал достоянием истории. Но вот что не нашло тогда отражения в печати.

После своей речи Хрущев с помощью охранников спокойно слез с "трибуны" и в окружении плотного кольца советских и иностранных журналистов стал медленно двигаться по павильону, где были экспонированы остатки "шпионского ястреба". Главный маршал авиации Вершинин с большим знанием дела докладывал собравшимся, какой прибор для чего предназначался, каковы тактико-технические данные У-2, в чем особенности маршрута самолета Пауэрса. Хрущев спокойно слушал Вершинина и понимающе кивал головой. Наконец подошли к довольно компактному прибору, напоминающему раскрытую для работы портативную пишущую машинку.

— А это что? — добродушно спросил Хрущев.

— Это специальный магнитофон, на который Пауэрс записывал сигналы советских ПВО и радиолокационных станций по маршруту движения У-2, — ответил Вершинин.

Хрущев задумался.

— А он работает? — поинтересовались корреспонденты.

— Как часы! — ответил маршал. — Убедитесь сами.

И он нажал соответствующую клавишу магнитофона. По залу разнеслись странные звуки, похожие на какофонию в обычном радиоэфире, когда быстро вращают ручку настройки. Десятки рук с микрофонами потянулись с разных сторон к "говорящему ящику". И в этот момент действительно произошел "взрыв".

— Убрать! Немедленно убрать эту музыку! — приказал покрасневший от негодования Хрущев. — Это надо же такое придумать! Давать на перезапись то, ради чего к нам летел У-2...

— А вы, специалисты, тоже хороши! — обратился он, повернувшись к военным. — Готовы рассекретить все и всем! Не дело это. Думать надо! — И для убедительности он показал пальцем на свой вспотевший от негодования и волнения лоб.

Идет время. Семнадцать лет как нет уже на свете Фрэнсиса Гарри Пауэрса. Снят с производства (хотя кое-где еще и летает) как явно устаревший в космический век самолет У-2 фирмы "Локхид". Канула в Лету "холодная война". Впрочем, нет уже даже и самого СССР, бескрайние границы которого когда-то нарушил, за что и поплатился, американский самолет-разведчик. Многое, очень многое изменилось. Нам говорят, что бывшие враги стали партнерами и чуть ли не друзьями...

А история... Она всегда остается с нами, и от нее мы не уйдем никогда, как бы ни хотели.

**А.НИКОЛАЕВ**

